**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.06, 20.16, 14.10;
Віцебск — 5.53, 20.09, 14.16;
Магілёў — 5.55, 20.06, 14.11;
Гомель — 5.57, 19.57, 14.00;
Гродна — 6.23, 20.29, 14.06;
Брэст — 6.26, 20.28, 14.02.
**МЕСЯЦ:**
Маладзік 28 жніўня
**ІМЯНІНЫ:**
Максіма, Ціхана; Марыі, Зефірыны.

# ЗВЯЗДА

26 жніўня 1992 г. серада, № 171 (21949)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ГАРЫМ, ГАРЫМ!..

**Пасля некалькіх дзён з дажджамі на Беларусі з новай сілай запалалі пажары. Пажаранебяспечнае становішча назіраецца ў асноўным на тэрыторыі Мінскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей. На сённяшні дзень у рэспубліцы налічваецца прыкладна 380 ачагоў пажараў, агульная плошча якіх складае жудасную лічбу — каля 7 тысяч гектараў. Выгараюць цэлыя вёскі, пакутуюць людзі. Так, у Глускім раёне Магілёўскай вобласці пажары пакінулі без даху над галавой 31 сям'ю. Некаторыя глускія вёскі цяпер нагадваюць Хатынь — толькі адны абгарэлыя каміны «ўпрыгожваюць» навакольны пейзаж. Для тых, хто жадае дапамагчы пагарэльцам, адкрыты спецыяльны рахунак міласэрнасці: 000700528, аддзяленне «Белаграпрамбанка», г. п. Глуск.**

### «ЧАЦВЁРТАЙ УЛАДЗЕ» — НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**У БЕЛІНФАРМ паступіла адкрытае пісьмо выканкома Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, накіраванае ў Вярхоўны Савет, Савет Міністраў і кіраўніцтву нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.**

У звароце адзначаецца згубнасць непадзельнай манаполіі дзяржавы на сродкі масавай інфармацыі, крытыкуецца пазіцыя Савета Міністраў, які, на думку аўтараў, «выкарыстаўшы аслабленне дэмакратычных сіл у грамадстве і парламенце, а таксама рост эканамічных цяжкасцей, змог устанавіць кантроль над большасцю штодзённых газет».

Палітычнай расправай над непажаданымі перадачамі і журналістамі называе выканком факт пераводу дэмакратычна настроенай тэлеперадачы «НІКа», якая раней існавала ў якасці самастойнага структурнага падраздзялення, у творчае аб'яднанне інфармацыйных праграм. У заяве адзначаецца, што менавіта «НІКа» паслядоўна стаяла на дэмакратычных пазіцыях, пастаянна асвятляла працэс станаўлення незалежных і свабодных прафсаюзаў, новых палітычных партый і арганізацый.

Выканком АДПБ запатрабаваў ад кіраўніцтва рэспублікі і нацыянальнай тэлерадыёкампаніі выдзеліць на тэлебачанні і радыё эфірны час для арганізацыі перадач дэмакратычнымі партыямі і рухамі, а таксама прадаставіць пастаянныя палосы для публікацый на старонках штодзённых саўмінаўскіх газет, аказаць матэрыяльную дапамогу няўрадавым сродкам масавай інфармацыі і распрацаваць комплекс мер па стварэнню альтэрнатыўнага тэлебачання і радыё.

### НЕ ЎСЁ АДРАЗУ?

МСЦІСЛАЎ. Тут адбыўся першы сход раённай арганізацыі Партыі камуністаў Беларусі, якая толькі нядаўна створана. Праўда, рады яе пакуль што нешматлікія — 23 чалавекі. Менавіта столькі «таварышаў» прысутнічала на сходзе.

Дарэчы, год назад раённая партарганізацыя была ў дзесяць разоў большая.

Але не ўсё адразу, лічаць мсціслаўскія камуністы.

### НОВАЯ «ЕЖА» ДЛЯ ТАКСАФОНА

20 жніўня ў Мінску з'явіўся яшчэ адзін від жэтонаў. На гэты раз для тэлефонаўаўтаматаў. Набыць іх можна пакуль толькі ў перагаворных пунктах, але ў хуткім часе такое стане магчымым і ва ўсіх аддзяленнях сувязі: па тры рублі за жэтон для міжгародняй размовы і па рублю — за троххвілінную гарадскую. Разам з таксафонамі, якія «глытаюць» жэтоны, некаторыя будуць працаваць і за «пятнашку», але за такі кошт можна будзе сказаць усяго некалькі слоў.

У Міністэрстве сувязі карэспандэнту БелаПАНа паведамілі, што ўсяго выраблена 10 мільёнаў жэтонаў. Затраты на выраб аднаго жэтона склалі два рублі.

**Аляксандр МАЛЧАНАЎ.**
**БелаПАН.**

### КАНСУЛЬТАТЫЎНЫ САВЕТ ЯКАСЦЬ ГАРАНТУЕ

**У аўторак адбылося пасяджэнне Кансультатыўнага савета Рэспублікі Беларусь. Нагадаем, што гэты орган створаны пры парламенце рэспублікі з мэтай павышэння якасці распрацоўваемых дакументаў, якія выносяцца на чарговую сесію. Папярэдне ўсе яны разглядаюцца на Кансультатыўным савеце, у які, дарэчы, на сённяшні дзень уваходзяць 62 народныя дэпутаты, што працуюць на прафесійнай аснове.**

На чарговым пасяджэнні абмяркоўваўся блок пытанняў заканадаўчай камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю. Усе яны датычаць вайсковай тэматыкі. На працягу апошніх месяцаў гэтыя пытанні набылі асаблівую вастрыню: статус ваеннаслужачых у Беларусі; пенсійнае забеспячэнне (адпаведная пастанова ВС, на думку дэпутата Кучынскага, не выконваецца зусім); вяртанне ваеннаслужачых-беларусаў на радзіму. Намеснік міністра абароны Пётр Чаус вярнуўся з паездкі па некаторых рэспубліках Сярэдняй Азіі, дзе працягваюць несці службу каля 1.000 афіцэраў — ураджэнцаў Беларусі, якія жадаюць вярнуцца на радзіму. Вячаслаў Кузняцоў (ён вёў пасяджэнне), паабяцаў, што 26 жніўня будзе створана эвакуацыйная камісія, якая і зоймецца вырашэннем гэтага пытання.

Яшчэ адна праблема. У Вярхоўны Савет паступіла пісьмо ад курсантаў-беларусаў, якія вучацца ў адным з ваенна-камандных вучылішчаў Санкт-Пецярбурга, — два дзесяткі чалавек адлічаны з гэтай навучальнай установы толькі за тое, што адмовіліся падпісваць дакументы аб сваёй згодзе служыць у далейшым на тэрыторыі Расіі. І ўсё гэта адбываецца, заўважце, пасля падпісання дагавора аб супрацоўніцтве ў ваеннай галіне паміж Беларуссю і Расіяй. Дарэчы, наконт гэтага дагавора таксама ўзніклі спрэчкі. Ён павінен уступіць у сілу пасля ратыфікацыі парламентам, але некалькі пагадненняў, якія былі падпісаны адначасова і складаюцца фактычна з тых жа артыкулаў, што і сам дагавор, — дзейнічаюць з моманту падпісання. Дзе тут логіка? — задавалі пытанне дэпутаты.

Аб стратэгічных базах Расіі на тэрыторыі Беларусі. «Якое тут можа быць «узаемадзеянне»? Мы ж нейтральная дзяржава, — заўважыў В. Голубеў.—А што, калі з дапамогай гэтых баз Расія будзе весці дзеянні супраць іншых дзяржаў — як гэта будзе стасавацца з нашым нейтралітэтам?» Пытанні тут застаюцца, гучаць заклікі да Вярхоўнага Савета не ратыфікаваць гэты дагавор, ад якога могуць быць у нашай дзяржавы непрыемнасці.

Затым народныя дэпутаты прыступілі да паартыкульнага абмеркавання прадстаўленых законапраектаў: аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, аб статусе ваеннаслужачых, аб Усеагульным воінскім абавязку і вайсковай службе, аб пагранічных войсках, аб дзяржаўнай граніцы. Гучалі розныя прапановы, ішло галасаванне. Але ўсе рашэнні Кансультатыўнага савета носяць рэкамендацыйны характар. Апошняе слова скажа сесія. Дата пачатку яе работы будзе вызначана ў бліжэйшы час.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## «Энцыклапедыя» савецкага бізнесу.

### *Том першы і апошні.*

**Як я выйшаў на Алега — справа не такая важная. Адзначу толькі, гэта аказалася не так цяжка, як уяўлялася. Мне, напрыклад, здавалася, што людзей гэтай сферы дзейнасці выклікаць на гутарку, а тым больш — шчырую, малаверагодна. А тут аб'ява ў газеце: «Прадаецца МП». Пазваніў. Атрымаў згоду. Забягаючы наперад: Алег мяне «вылічыў», відаць, яшчэ па тэлефоннай размове. Шчыра кажучы, зрабіць гэта было няцяжка: што гэта за пакупнік, які не цікавіцца ні цаной, ні месцазнаходжаннем МП? Размова, аднак, адбылася.**

Па просьбе Алега некаторыя яе дэталі, у тым ліку яго прозвішча, я апускаю: ні ён, ні я зусім не зацікаўлены ў магчымых рэпрэсіях. Скажам, раптам могуць пазбавіць дазволу гандляваць гарэлкай, ці яшчэ што...

Алег скончыў гуманітарную ВНУ, працаваў у кінапракаце, пяць гадоў назад узяўся за кааператывы. Паварыўся ў гэтым катле, набыў адпаведны вопыт, і вось сёлета прадаставілася магчымасць купіць месца для двух кіёскаў. Для гэтага, праўда, прыйшлося прадаць машыну і ўкласці ў справу 330 тысяч рублёў. Па нашым часе сума не надта вялікая, асабліва калі ў панчосе яшчэ пяць разоў па столькі.

У Алега столькі не было, і справу ён пачынаў, вядома, з рызыкі.

Нічога прынцыпова новага ў яго бізнесе няма. Звычайныя «камкі», прычым даволі аддаленыя ад «гарачых кропак» сталіцы (Камароўкі, вакзалаў, цэнтральных вуліц). Склаўся кантынгент пастаўшчыкоў тавару. Пэўныя людзі ездзяць у Маскву, Санкт-Пецярбург, Прыбалтыку. Што вязуць? Ды ўсё, што карыстаецца попытам і на чым можна мець «навар». Дапусцім, партыю цыгарэт, маскоўскай фабрыкі «Ява» ці «бабл-гам» з Прыбалтыкі. Алег бярэ оптам, па гэтай прычыне — скідка 30—40 працэнтаў. 12 працэнтаў ён бярэ за камісію плюс 12 жа працэнтаў плаціць ад кошту прададзенай рэчы як падаходны падатак. Атрымліваецца ўсяго толькі 30—40 працэнтаў прыбытку.

— У прынцыпе, пасля ўсіх разлікаў павінна заставацца салідная сума, — гаворыць Алег.— Але не застаецца. У мяне зараз практычна адны пазыкі. Уласна кажучы, таму я і прадаю сваё прадпрыемства. Калі купяць на маіх умовах, а гэта 700 тысяч, то я прадам. Не — прадаваць не буду.

Настрой Алегу, як і сотням іншых сталічных камерсантаў, сапсавала «Палажэнне аб парадку штомесячнага збору за права ўстаноўкі гандлёвых кропак», прынятае сесіяй Мінгарсавета 16.02.92 г. Цікавы дакумент — плод калектыўнага роздуму нашых дэпутатаў над пытаннем: якую свінню яшчэ падлажыць прыватнаму бізнесу?

Зрэшты гутарка аб адным маленькім пункціку, дзе гаворыцца аб штомесячнай плаце за квадратны метр гандлёвай плошчы. Разумная плата, па меркаванню тых, хто думае за нас, складае 1000 (адну) тысячу рублёў за метр квадратны. Гэта значыць, што, напрыклад, Алег павінен аддаць 9 тысяч кожны месяц толькі за права на месца. За якое, дарэчы, ён ужо заплаціў аднойчы кругленькую суму. А яшчэ кажуць, што нельга двойчы ўступіць ў адну раку. Кіньце! У нас усё магчыма.

Кажучы словамі Астапа Бендэра: я чалавек зайздросны, але тут зайздросціць нечаму.

Свая праўда ёсць, канешне, і ў дэпутатаў. Грошай няма, дэфіцыт бюджэту, не будуюцца ні жыллё, ні школы, а хочацца ўсё і адразу. Таму давайце мы іх зноў прыціснем, вось вам і грошы. Ну і што, што разбягуцца, на наш век камерсантаў хопіць, а што мы людзям скажам?.. І гэтак далей.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

### СПРЭЧКІ ВАКОЛ ГІМНА НЕ СЦІХАЮЦЬ

ГОМЕЛЬ. Рух «Адзінства і справядлівасць» выступіў з заявай наконт надрукаваных і выкананых па радыё варыянтаў нацыянальнага гімна Рэспублікі Беларусь. Рух лічыць, што большасць прапанаваных тэкстаў (1, 4, 5 і 6 варыянты) носяць вузка царкоўны характар, яны аналагічныя зрыфмаваным малітвам, між тым як у дзяржаўным гімне павінны знайсці адлюстраванне «плённая праца як крыніца жыцця... і згода пражываючых на Беларусі людзей». На думку руху, у гімнах не павінна быць баявых заклікаў накшталт «На бой!», «Дамо адпор», «Біце ў сэрцы іх, біце мячамі» і ўпамінання аб бела-чырвона-белым сцягу, які быццам бы ўведзены пры «поўным няведанні шырокіх мас насельніцтва ўсёй праўды аб ім».

Удзельнікі «Адзінства і справядлівасці» заяўляюць, што эмблема «Пагоня» не стасуецца з індустрыяльна развітой дзяржавай, якой з'яўляецца Беларусь, і «не выклікае энтузіязму і гонару за сваю краіну». У рашэнні руху ставіцца пытанне аб тым, чаму з пяцідзесяці тэкстаў, што разглядаліся камісіяй, надрукавана толькі шэсць варыянтаў, «ні адзін з якіх не адпавядае патрабаванням, прад'яўляемым да гімнаў». У сувязі з вышэйпералічаным гомельскі рух «Адзінства і справядлівасць» прапануе надрукаваць усе перададзеныя ў камісію тэксты і спыніцца на тым варыянце, які атрымае ў народа найбольшую падтрымку. У самім жа руху падтрымліваюць стары гімн, аднак пры «некаторым удакладненні тэксту».

Як бачыце, вакол нацыянальнага гімна Рэспублікі Беларусь палеміка не заціхае. І гэтая інфармацыя з'яўляецца пацвярджэннем таго.

### ЛЕНІНСКІ КАМУНІСТЫЧНЫ ДЗЕЙНІЧАЕ...

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛІНФАРМа, беларускія камсамольцы — члены ЛКСМБ (не блытаць з СМБ) — прынялі рашэнне сабрацца на свой чарговы пленум у пачатку верасня. Галоўнай тэмай абмеркавання на ім, відаць, паўстане пытанне аб уступленні гэтай арганізацыі на калектыўных правах у Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць. У адрозненне ад XXXI з'езда, які праводзіўся вясной гэтага года ў глухім Беларускім Палессі (чытай у падполлі), маючы адбыцца пленум пройдзе ў Мінску. На ім, дарэчы, будзе таксама вырашана пытанне аб правядзенні чарговага XXXII з'езда Ленінскага камсамола Беларусі.

**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## «Ходзяць чуткі, быццам усё падаражэе...»

**Так называлася заметка, змешчаная ў «Звяздзе» 21 жніўня, у якой ішла размова аб тым, што пад уплывам павышэння рознічных цэн на харчовыя тавары людзі пачалі ўзмоцнена атакаваць магазіны і скупляць усё, што траплялася пад руку. Гэта было выклікана чуткамі аб тым, што ўсё падаражэе.**

**Ці так гэта? А як усё ж на самай справе? За адказам на гэтыя пытанні рэдакцыя звярнулася да дырэктара Дэпартамента цэн пры Дзяржэканомплане Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Іванавіча МІХАСЁВА. Вось што ён паведаміў:**

— Так, мінула ўсяго некалькі дзён пасля ўвядзення новых цэн на хлеб, малако і масла, але насельніцтва зноў узбударажана чуткамі аб быццам бы маючым адбыцца ў бліжэйшыя дні значным павышэнні цэн на астатнія прадукты харчавання і нехарчовыя тавары народнага спажывання.

Як ужо паведамлялася ў друку, вымушанае павышэнне цэн на асноўныя прадукты харчавання было выклікана перш за ўсё значным, да 6 разоў, ростам закупачных цэн на збожжа сёлетняга ўраджаю, што ва ўмовах абмежаваных бюджэтных магчымасцей выклікала неабходнасць павышэння верхняй мяжы фіксаваных цэн на хлебабулачныя вырабы ў 2—3 разы. Можна сказаць, што гэты ўзровень, які падтрымліваецца дзяржавай за кошт бюджэтных датацый, без такіх захадаў быў бы значна вышэйшым: на хлеб у 8—10, малочную прадукцыю і масла — у 3—4 разы.

Напрыклад, бездатацыйная рознічная цана на хлеб склала б цяпер прыкладна 30, масла —250 рублёў за кілаграм і малако —13 рублёў за літр.

Безумоўна, пакупніцкая псіхалогія дыктуе ўсплёск ажыятажнага попыту, які, відаць, звязаны з павышэннем цэн на гэтыя жыццёва важныя прадукты харчавання.

Наколькі рэальныя апасенні магчымага росту цэн у бліжэйшы час?

На харчовыя тавары, рэалізуемыя па фіксаваных цэнах, датацыі з бюджэту, як прадугледжана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 12 жніўня 1992 года, на астатні перыяд года павялічаны на 7,1 мільярда рублёў. І калі не зменяцца знешнія фактары, г. зн. кошт атрымліваемых з Расіі нафты і газу, збожжа з Казахстана, то цэны на ўказаныя харчовыя тавары да канца году захаваюцца.

А цяпер што датычыць прадукцыі і тавараў, рэалізуемых па свабодных цэнах. Як паказалі вынікі прагнозу, зробленага Дэпартаментам цэн, ва ўмовах рыначных адносін, што развіваюцца, некаторае змяненне цэн на гэтыя тавары да канца сёлетняга года будзе адбывацца. Аднак значнага іх павышэння, як гэта было на пачатку года, да канца года не мяркуецца.

Асноўнымі фактарамі, якія паўплываюць на змяненне цэн у гэты перыяд могуць стаць: павышэнне заработнай платы і іншых сацыяльных выплат (пенсій, дапамог, стыпендый), звязаных з падаражаннем кошту жыцця; павышэнне кошту энерганосьбітаў, завозімых з Расіі.

Пра гэта трэба сказаць асобна. У маі 1992 года Рэспублікай Беларусь падпісана з Расіяй пагадненне, у якім зафіксаваны да канца года сярэдні ўзровень цэн на нафту ў памеры 2.816 рублёў за 1 тону.

Праўда, цяпер ёсць спробы нафтагазаздабываючых аб'яднанняў Расіі патрабаваць плату за пастаўленую ў Беларусь нафту па цане ад 4 да 6 тысяч рублёў за тону.

Урадам рэспублікі прымаюцца ўсе меры да таго, каб захаваць да канца сёлетняга года зафіксаваныя ўзроўні цэн на энерганосьбіты і іншыя сыравінныя рэсурсы. Па нашаму патрабаванню кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі папярэдзіла нафтагазаздабытчыкаў, што перавышэнне максімальнай гранічнай мяжы ўстаноўленых пагадненнем цэн на нафту з'яўляецца парушэннем дзяржаўнай дысцыпліны цэн, за якое будуць прыменены эканамічныя санкцыі.

Варта адзначыць, што сёлета ў сакавіку мы перажылі больш значнае павышэнне цэн на энерганосьбіты — у 5 і больш разоў, што выклікала прыкладна двухразовы прырост цэн на прамысловую прадукцыю і тавары народнага спажывання. Таму, калі нават і адбудзецца некаторае павышэнне цэн на энерганосьбіты, то яно дасць у цэлым нязначнае змяненне нашых унутраных цэн на тавары. Таму чуткі аб чарговым значным скачку цэн не пацвярджаюцца прагнозамі.

Разам з тым, безумоўна, могуць мець месца манапольныя імкненні вытворцаў, якія пад агульныя разважанні аб павышэнні цэн могуць паспрабаваць узвінціць іх на сваю прадукцыю.

Аднак трэба мець на ўвазе, што цэны на прадукцыю прадпрыемстваў -манапалістаў знаходзяцца пад дзяржаўным кантролем і беспадстаўныя спробы іх павелічэння будуць рашуча спыняцца органамі цэнаўтварэння.

Пры гэтым вытворцам не трэба забывацца і на рыначныя фактары, якія могуць абярнуцца супраць іх. Што тут маецца на ўвазе? Ва ўмовах агульнага падаражання кошту жыцця адбываецца перараскмеркаванне спажывецкага попыту на карысць жыццёва неабходных тавараў і паслуг, а на дарагія тавары працяглага карыстання ён рэзка скарачаецца, і павышэнне цэн на іх можа аказаць дрэнную паслугу вытворцам.

Падрыхтоўку глебы пад азімыя пачалі ў калгасе імя Кірава Баранавіцкага раёна. Гэтай восенню ў гаспадарцы трэба ўзараць каля 2 тысяч гектараў. Улічваючы складаныя ўмовы надвор'я, палявыя работы механізатары вядуць у начны час, а ўдзень праводзяць прафілактычны агляд тэхнікі, неабходны рамонт.

НА ЗДЫМКУ: загадчык майстэрні Сяргей МОХАНЬ і механізатар Віктар КАНАНОВІЧ. Трактар да ворыва гатовы.

**Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛІНФАРМ).**

«ЗВЯЗДА»-93

## Накормім і дагледзім сябе самі

Калі мы пачыналі штотыднёвыя выпускі «Ваш сад і агарод», «Зельнік», «Неадкладная даўрачэбная дапамога», нават і не думалі пра такі ўсплёск цікавасці чытачоў. Людзі збіраюць публікацыі, падшываюць, дзеляцца з суседзямі па сядзібе ці дачы. Зрэшты, усё гэта і не дзіўна. Бо ў наш час, калі паліцы магазінаў быццам падмяла мяцеліца і нічога не купіш, а калі што і набудзеш, то аддасі ладны кавалак заробку ці пенсіі, уся надзея толькі на сябе, на свае сілы, кемлівасць, вопыт, спрыт і, вядома ж, веды.

Сваімі парадамі газета імкнулася абудзіць чытача, падштурхнуць яго да актыўнага пошуку, проста неспакою. У кожным выпуску мы вялі даверлівую размову. Сцвярджалі: нічога тут «сакрэтнага» няма, усё зразумела, усё вам па сілах і вельмі проста. Прыводзілі вопыт не толькі айчынны, але і замежны. Давалі шмат табліц.

Сёння, мяркуючы па званках і пісьмах, шмат дзе справы ідуць на станоўчую адзнаку, а дзе-нідзе наогул можна ставіць «выдатна». Як бы там ні было, а людзі сустракаюць зіму з агароднінай і садавінай. Ёсць нават лішкі. А гэта якраз той рубель, які можна смела выкарыстоўваць, як кажуць эканамісты, на «расшыранае ўзнаўленне».

Даверлівы кантакт з чытачом будзем працягваць. Паспрабуем больш глыбока зазірнуць у спецыфічныя ўласцівасці розных культур, засяродзім увагу на акалічнасцях, якія спрыяюць росту і стрымліваюць яго.

Асобны вялікі раздзел зойме аграхімія. Выступяць з паведамленнямі навукоўцы. Іх дапоўняць практыкі. Не толькі Рэспублікі Беларусь, але і далёкага замежжа.

І гэтаму ёсць прычына. Чаму, скажам, галандцы, прымяняючы ў асноўным «хімію», атрымліваюць адметныя вынікі, а мы, аддаючы зямлі такую колькасць арганікі, недзе застаёмся абдзеленымі?

Як і раней, будуць змешчаны шматлікія сумарныя табліцы і календары. Сваё месца знойдуць рэпартажы з лепшых дач і прысядзібных участкаў. Вядома ж, раскажам пра раніраваныя сарты і тыя, што «на падыходзе». Ёсць задумка правесці рэспубліканскі конкурс на самыя-самыя важкія плады саду і агарода.

Нашы падпісчыкі прапануюць пашырыць «Ваш сад і агарод», дадаўшы ў яго і раздзел па гадаванню птушкі. І гэтая прапанова, безумоўна ж, будзе ўлічана.

Зялёную аптэчку — наш «Зельнік» — завялі нядаўна. Людзям даспадобы, што сабраны разам (да таго ж упершыню ў айчыннай практыцы) лячэбныя, харчовыя і гаспадарчыя якасці раслін, нарыхтоўка і спажыванне. Атрымалася народная зялёная аптэка з шырокім дыяпазонам дзеяння. У запасніку рэдакцыі яшчэ добрых паўсотні траў і дрэў. Наш дэвіз тут — не нарабі лішняга! Таму кожную рэкамендацыю ўспрымаць і выконваць трэба вельмі асцярожна. Узважваць усе «за» і «супраць», раіцца з доктарам.

«Даўрачэбная дапамога» — гэта энцыклапедычны даведнік кожнага чалавека. Яго склалі і данеслі да чытача вучоныя-медыкі рэспублікі. Калі мы атрымалі сабраны разам аб'ёмны рукапіс, жахнуліся нават: божа, колькі ж хвароб у чалавека! Пра сімптомы многіх з іх расказалі на старонках газеты. І будзем працягваць такія публікацыі. У іх па-ранейшаму будуць асвятляцца прычыны недамаганняў, іх праяўленне і тое, як аказаць тэрміновую дапамогу да прыходу доктара ці прыбыцця «хуткай дапамогі».

**Мікалай ЧАХОЎСКІ.**

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА «ЗВЯЗДУ»:**
● НА ПЕРШАЕ ПАЎГОДДЗЕ 1993 ГОДА—120 РУБЛЁЎ
● НА АДЗІН МЕСЯЦ У ПЕРШЫМ ПАЎГОДДЗІ — 20 РУБЛЁЎ

Ф. СП-1

**АБОНЕМЕНТ** на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"** Количество комплектов: 1

на 1993 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия, инициалы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

ПВ | место | литер

**ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА** на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"**

| Стоимость | подписки | ___ руб. ___ коп. | Количество комплектов: | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | ___ руб. ___ коп. | | |

на 1993 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия инициалы)

# РОЗГАЛАС

## НА СТАРТЫ Ў ІСПАНІЮ

Зборная інвалідаў Рэспублікі Беларусь вылецела ў Маскву на адборачныя спаборніцтвы параалімпійскіх гульняў, якія будуць праходзіць у верасні ў Іспаніі. У саставе зборнай 12 чалавек. Віды спорту, у якіх будзе спаборнічаць наша зборная інвалідаў, — лёгкая атлетыка, веласіпедныя гонкі і стральба з лука.

## ГРОШЫ ЗАЎСЁДЫ ПАХНУЦЬ

БАБРУЙСК. У памяшканні гарнізоннага Дома афіцэраў адкрыўся камерцыйны магазін. Набор тавараў тыповы для «камкоў»: спірт, цыгарэты, адзенне, «жвачка». Але назва не тыповая — «Саланг». Відаць, камерцыйныя дзялкі вырашылі хоць назвай магазіна зачапіць раны тутэйшых «афганцаў», якія палівалі крывёй перавал з аднайменнай назвай.

Цікава, куды глядзіць камандаванне танкавай арміі, не без ведама якога, відаць, пачала працаваць гэтая крама?

Дарэчы, што толькі грошы з людзьмі не робяць. Яны каго хочаш звядуць з розуму. Не ўстаялі перад такой спакусай і два палкоўнікі, З. і Ф. У вучэбным цэнтры яны рашылі арганізаваць малое прадпрыемства «Юнкер», якое будзе займацца рамонтам рыбалоўнай аснасткі. На думку ваенных дзядзек, без лёскі і паплаўкоў наша армія зусім можа аслабнуць.

## ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ МУЗЕЯ МІЦКЕВІЧА

НАВАГРУДАК. Амаль два гады працягваліся работы па аднаўленню экспазіцыі музея вядомага беларускага і польскага паэта Адама Міцкевіча, якія выконваліся сумеснымі сіламі аб'яднання літаратурных музеяў Беларусі, польскай рэстаўрацыйнай арганізацыі «Будзімэкс», Навагрудскага гарвыканкома, навагрудскага і варшаўскага музеяў А. Міцкевіча. Дарэчы, апошні з музеяў пакінуў у Навагрудку на часовае захоўванне каля паловы экспанатаў экспазіцыі, з якіх потым плануецца зрабіць муляжы. Адкрыццё музея прызначана на 12 верасня.

## З ВАЙНОЙ МЫ ПАКВІТАЛІСЯ ЎЖО?

**На жаль, для нашай рэспублікі, на тэрыторыі якой апошнія залпы Вялікай Айчыннай адгрымелі амаль 50 гадоў назад, гэта і сёння далёка не простае пытанне. Вось і нядаўна вайна зноў нагадала аб сабе. На гэты раз—у Крупскім раёне Мінскай вобласці. Тут у лясным масіве агульнай плошчай 459 гектараў у раёне населеных пунктаў Бобр, Замкі, Стары Бобр знойдзена вялікая колькасць боепрыпасаў ваеннага часу.**

Для іх размініравання ў адпаведнасці з даручэннем Старшыні Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіча і дырэктывай начальніка штаба Міністэрства абароны генерал - маёра М. Чуркіна было сфарміравана спецыяльнае падраздзяленне. У выніку праведзеных работ, у якіх удзельнічала каля 140 чалавек — афіцэраў, прапаршчыкаў і ваеннаабавязаных запасу, абясшкоджана і знішчана 3.281 адзінка снарадаў, мін, гранат, а таксама 9.700 патронаў.

Асноўную частку «ваеннай спадчыны» складалі адзіночныя артылерыйскія снарады. Таксама знойдзена два штабелі 80 мм артылерыйскіх снарадаў нямецкай вытворчасці. Складанасць сітуацыі заключалася ў тым, што некаторыя боепрыпасы знаходзіліся ў сквалах дрэў. Запатрабавалася нямала мужнасці і майстэрства, каб абясшкодзіць іх.

Цяпер работы завершаны. Пасля іх заканчэння спецыяльная камісія, куды ўвайшлі прадстаўнікі Міністэрства абароны рэспублікі, 7-й танкавай арміі і мясцовых органаў улады, абследавала тэрыторыю, якая падлягала размініраванню, і ўстанавіла, што яна поўнасцю ачышчана ад выбуханебяспечных прадметаў. Ліквідаваны яшчэ адзін чорны след, які пакінула вайна на шматпакутнай беларускай зямлі. Толькі ці апошні?

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь —БЕЛІНФАРМ.**

## ХОЧАЦЕ ДАЧКУ? ЦІ СЫНА? НЯМА ПРАБЛЕМ!

Бельгійскія ўрачы з Бруселя сцвярджаюць, што ў чатырох з пяці выпадкаў жанчыны могуць загадзя «заказаць» пол свайго дзіцяці. Сакрэт заключаецца толькі ў тым, што яны павінны прытрымлівацца пэўнай дыеты на працягу 10 тыдняў да зачацця.

Для тых жанчын, якія хочуць нарадзіць хлопчыка, яны рэкамендуюць кіравацца трыма «залатымі» правіламі:

**1. Есці як мага больш агародніны і фруктаў: морквы, бульбы, бананаў...**

**2. Павялічваць пры прыёме ежы колькасць солі ў асноўным за кошт раствяральных булённых кубікаў, каўбасы «Салярый» і салёнай вэнджаніны.**

**3. Практычна адмовіцца ад малака і малочных прадуктаў.**

Ну, а калі хочаце дзяўчынку, то рабіць усё трэба наадварот: дзесяць тыдняў «сядзець» на адным малацэ і малочных прадуктах.

Баюся, што для нас бельгійскі рэцэпт наўрад ці падыдзе.

**Леў АФАНАСЬЕЎ. «Голос» (Масква).**

# Калі дом—зусім не крэпасць

**Паклікала падлетка дарожная рамантыка — і пайшоў ён у белы свет набірацца ўражанняў. Прыхапіўшы з дому грошы ці нейкія каштоўныя рэчы. Або проста так, паражняком, спадзеючыся на добрых людзей, што не дадуць памерці з голаду. А можа, і работу часовую прапануюць.**
**Тады і наогул набірацца ўражанняў можна не адзін тыдзень: падлетак з грашыма ў кішэні адчувае сябе больш упэўнена і выглядае адпаведна — пройдзе пэўны час, перш чым работнікі міліцыі западозраць у ім уцекача. У такім разе заканчваецца «рамантычнае падарожжа» зусім не рамантычна — у дзіцячым прыёмніку-размеркавальніку. Праўда, вельмі нямногіх непаўналетніх бадзяг цягне менавіта рамантыка далёкіх вандраванняў. І ў мінскім дзетпрыёмніку іх таксама адзінкі. З дому ўцякаюць часцей зусім па іншых прычынах...**

— Колькі разоў я ўцякаў з дому? — ён задумаўся. — Калі за ўсё жыццё — разоў 800, напэўна, будзе...

«Усё жыццё — гэта толькі 12 гадоў, 9 з якіх Валянцін Стацэнка практычна не жыў дома. Эпапея яго падарожжаў пачалася даўно — упершыню хлопчык збег з дзіцячага садка і амаль пяць дзён блукаў па горадзе, знаёмячыся з бяздомнымі сабакамі і катамі, што трапляліся насустрач. Ды падбіраў яблыкі, якіх тады шмат валялася ля платоў прыватных дамоў. Міліцыянеры асаблівай увагі на яго не звярталі—колькі малых бадзяецца па летніх вуліцах! Дарогу дамоў хлопчык ужо знайсці не мог, але і не імкнуўся да гэтага — бацькі часта сварыліся, выпівалі. Нярэдка адчуваў ён сябе ва ўласнай сям'і лішнім і непатрэбным. Але на той раз маці ўсё ж звярнулася ў міліцыю, і Валянцін зноў спазнаў на сабе ўвесь цяжар «хатняга выхавання»...

Проста так ён не бегаў. Амаль заўсёды — пасля бацькоўскіх п'янак. Уцякаў да сяброў, знаёмых — на дзень, два. Потым тэрмін «прагулак» павялічыўся: бацькоўскія сваркі сталі часцейшымі. Рэгулярна пакідаць дом стала прывычнай справай, а тут і грошы завяліся — у раёне стварылі кааператыў па вырабу канцылярскіх прылад, а на работу бралі менавіта падлеткаў. Калі вельмі стараўся — да дзвюх тысяч у месяц зарабляў.

— А баяцца я амаль нікога не баюся, — запэўніў ён, танклявы хлапчук з вялізнымі вачыма на худым твары. — Два гады вучыўся каратэ, усе прыёмы ведаю, і сіла ў мяне ёсць (гэта ўжо ў адказ на мой недаверлівы позірк). У секцыі нас вучылі дошкі рукамі разбіваць, і я таксама разбіваў. Так што не думайце — пастаяць за сябе магу...

У шматлікіх бойках — прычын для іх у падлеткаў заўсёды хапае — ён не часта выходзіў пераможцам. Але абараніць сябе сапраўды мог, і пасля першага «высвятлення адносін» яго звычайна больш не чапалі. А ён трымаўся ад усіх асобна, жыць стараўся незалежна, сам па сабе. Сябры ў яго, зразумела, былі, але намнога старэйшыя, чым сам. Людзі, з якімі Валянцін адчуваў сябе «на роўных». І яны, здаецца, адносіліся да яго адпаведна. І прытулак знайсці дапамагалі, і нават — месца ў жыцці. Гэта, дарэчы, зусім не гучныя словы.

— Тры тыдні назад, — паведаміў хлопчык, — прыйшоў я на лодачную станцыю, бо ў мяне там шмат добрых знаёмых працуе. Стаю, гляджу... Убачыў дзядзьку Мішу—ён да мяне: «Грошай няма?» — пытаецца. Няма, кажу. Ён тады: «Прыходзь заўтра, працаваць будзеш». І назаўтра, як абяцаў, уладкаваў мяне на станцыю. Я яшчэ нідзе так многа — па 100 рублёў у дзень — не зарабляў, а калі святы — дык нават і больш. У святы толькі працуем з раніцы да ночы. Я ўжо вырашыў — застануся на станцыі назаўсёды. А ў дзіцячым доме, думаю, на работу адпрошвацца можна будзе.

Так — «у дзіцячым доме». Калі ў прыёмніку, як заведзена, звярнуліся да бацькоў хлопца, маці Валянціна паклала на стол міліцэйскага інспектара падпісаную паперыну: «Ад сына адмаўляюся...» «Мне цяпер адзін шлях — у дзіцячы дом, — разважае хлопчык. — Ведаю, што без бацькоў будзе цяжка, без маці... Але перажыву». Разважаў спакойна, і пра бацькоў гаварыў спакойна — быццам толькі таму, што так усе кажуць, а не таму, што сапраўды адчуе сябе адзінокім без бацькоўскай апекі. Бо даўно ўжо страціў сувязь і з бацькам, і з маці. І тыя таксама вельмі даўно адракліся ад сына.

Далейшае жыццё распланавана ў Валянціна ледзь ці не па днях. Ён дакладна ведае, што калі падрасце, абавязкова стане начальнікам лодачнай станцыі. І будзе ў яго ўласны дом, дзе «рамантычныя падарожжы» скончацца назаўсёды.

...Штосьці страшнае адбываецца з намі. Быццам часткі разбуранага, узарванага сусвету, разлятаемся мы — кожны па сваёй арбіце, і ўжо не чуем, не разумеем адзін аднаго. Самыя родныя, здавалася б, людзі становяцца чужымі. Няўжо такім бессэнсоўным робіцца нашае жыццё?

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

## АБХАЗІЯ: РОСПАЧ І ТРЫВОГА

**Абхазія — у трывожным чаканні эскалацыі ўзброенага канфлікту. Наш спецыяльны карэспандэнт Валянцін ЖДАНКО перадае з Піцунды.**

У выключна складаным становішчы апынуліся тыя з грамадзян Беларусі, Расіі і Украіны, хто ў пачатку канфлікту не паспеў эвакуіравацца з небяспечнай зоны. Для прыкладу, у Піцундзе, дзе не было масавай эвакуацыі адпачываючых, на сённяшні дзень «сядзяць на чамаданах» больш як 1.600 чалавек, сярод якіх 200 грамадзян Беларусі. Пакінуць Абхазію сухапутным шляхам амаль немагчыма: аўтобусы затрымліваюцца ўзброенымі пастамі і часцей за ўсё рэквізуюцца.

Тым часам расійскія сродкі масавай інфармацыі то дэзінфармуюць насельніцтва, паведамляючы аб завяршэнні эвакуацыі, то ўводзяць у зман, сцвярджаючы, што тыя, хто застаўся ў Абхазіі, не жадаюць эвакуіравацца.

Беларускія, рускія, украінскія грамадзяне ў Абхазіі практычна кінуты на волю лёсу. Спробы дамовіцца са штабам па эвакуацыі, які знаходзіцца ў Сочы, пакуль што безвыніковыя: там робяць выгляд, што ўпершыню даведаліся пра гэтую праблему, і ў бліжэйшыя дні не абяцаюць ніякай дапамогі (практычна ніякіх мер не прымаюць).

Амаль не даводзіцца сумнявацца, што дыялог паміж абхазцамі і грузінамі на мове ўльтыматумаў у бліжэйшы час выльецца ў яшчэ больш крывавыя ўзброеныя сутычкі, нягледзячы на розніцу ў колькасці і якасці ўзброеных сіл аднаго і другога бакоў, якая зусім не на карысць абхазцаў.

У такой сітуацыі становішча тых, хто не паспеў эвакуіравацца, стане катастрафічным. Грамадзяне Беларусі, якія вымушаны пакуль што заставацца ў Абхазіі, разлічваюць на дапамогу ўрада сваёй краіны. На жаль, падобна на тое, што аб'ектыўнай інфармацыі аб становішчы ў гэтым рэгіёне ў Мінску не маюць. Намаганняў абхазскага боку ў дапамозе па эвакуацыі яўна недастаткова: без дапамогі звонку абхазскія ўлады бяссільныя.

**ПІЦУНДА. АБХАЗІЯ, 25 жніўня (па тэлефоне).**

**АД РЭДАКЦЫІ: Мы звязаліся з рэспубліканскім штабам Грамадзянскай абароны і перадалі ім гэтую трывожную інфармацыю. Намеснік начальніка штаба палкоўнік Ю. Сівакоў паабяцаў звязацца з прадстаўніком штаба ГА РБ у Сочы і праз яго ўдакладніць абстаноўку і прыняць неабходныя меры для вырашэння гэтага пытання.**

**Больш падрабязную інфармацыю мы пастараемся апублікаваць у наступным нумары.**

## ПРАЗ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ

Тры дні назад было ўчынена разбойнае нападзенне на Героя Савецкага Саюза Марыю Осіпаву. Амаль пяцьдзесят гадоў назад з «дапамогай» мінскай падпольшчыцы, адправіўся на той свет намеснік Гітлера на Беларусі В. Кубе, за што ў кастрычніку 1943 года ёй было прысвоена званне Героя. І вось цяпер безабаронная жанчына стала ахвярай злачынства. Чацвёра маладых хлопцаў, уварваўшыся ў кватэру Осіпавай, адабралі, напэўна, самае дарагое, што ў яе ёсць: баявыя ўзнагароды, у тым ліку і Залатую Зорку Героя.

Скупшчыкі ордэнаў і медалёў, якія распладзіліся паўсюдна, правацыруюць, а, магчыма, і заказваюць падобныя злачынствы.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ. БелаПАН.**

## Я ПАЎДНЁВЫ, ГАРАЧЫ ЧАЛАВЕК

КРУГЛАЕ. Выканком раённага Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне часова забараніць продаж дамоў дзяржаўнага, грамадскага фонду і асабістых дамоў грамадзян асобам каўказскіх нацыянальнасцей. Зроблена гэта ў сувязі з напружаным крымінагенным становішчам у рэспубліцы, якое ў многім звязана са злачынствамі грамадзян з рэгіёнаў Закаўказзя і Сярэдняй Азіі.



## З ЗАЛАТЫМ ВЯСЕЛЛЕМ!

**Жыццё пражыць — не поле перайсці... Не заўсёды проста складвалася яно і ў Івана Арцёмавіча і Марыі Ягораўны Казловых з в. Гусевіцы Буда-Кашалёўскага раёна. Але ўсё ж любоў і павагу адзін да аднаго яны змаглі пранесці праз гады.**

**«Добрая душа ў мужа і жонкі і залатыя рукі», — гавораць пра іх землякі. І хоць на здымку Іван Арцёмавіч і Марыя Ягораўна ўдваіх, залаты юбілей свайго вяселля сустрэлі яны ў акружэнні дзяцей і шматлікіх унукаў.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА. (БЕЛІНФАРМ).**

## ФРАНЦУЗСКІ АГУРОК НА БЕЛАРУСКІМ СТАЛЕ

Некалькі дзён у Мінску з мэтай устанаўлення дзелавых кантактаў з беларускімі прадпрымальнікамі знаходзіліся прадстаўнікі кампаніі «Усходнееўрапейскае супрацоўніцтва», якое аб'ядноўвае дзелавыя колы Францыі. У выніку сустрэчы дырэктара кампаніі В. Філіпа з дырэктарам Цэнтра вывучэння грамадскіх праблем Д. Снікіным дасягнута дамоўленасць аб пастаўцы ў Беларусь буйных партый тавараў народнага спажывання і экалагічна чыстых прадуктаў харчавання (каля 30 найменняў), якія будуць прадавацца толькі за рублі. Дарэчы, цэны больш чым прымальныя. Напрыклад, 5-кілаграмовы слоік кансерваваных агуркоў і памідораў будзе каштаваць 37 рублёў, паўкілаграмовы слоік зялёнага гарошку — 21 рубель, кілаграм французскага сыру — 82 рублі, а маргарыну — 30. Першая партыя прадуктаў будзе дастаўлена ў Мінск ужо ў верасні.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ. (БелаПАН).**

## ХРОНІКА СУІЦЫДУ

**ГРОДНА. У 1990 годзе на Гродзеншчыне зарэгістраваны 4 самазабойствы сярод падлеткаў, у 1991 годзе гэтая жахлівая лічба ўзрасла ўдвая, а сёлета ўжо адбылося па вобласці 13 самазабойстваў юнакоў і дзяўчат. І самае сумнае заключаецца ў тым, што ёсць перспектыва іх росту.**

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

**ЛЕПШ ВЫЦЕРЦІ ДОШКУ**

Нявыгадна будзе парушаць дысцыпліну ў першай Наваград-Валынскай школе-гімназіі. З новага навучальнага года там для вучняў будуць уведзены наступныя пакаранні: за нявыцертую дошку або за тое, што бегалі на перапынку, — штраф 3 рублі, за адмаўленне ад дзяжурства — пяць.

**«СЕКСУАЛЬНАЯ АГРЭСІЯ»**

**У аўтобусах Каіра ствараюцца аддзяленні для адзінокіх жанчын. Яны адгароджаны ад асноўнай часткі салона. Гэта мера выклікана тым, што ў Егіпце пачасціліся выпадкі «сексуальнай агрэсіі» да жанчын у перапоўненых аўтобусах.**

**СМЕРЦЬ ВЕТЭРАНА «ТЫТАНІКА»**

У Бостане, у доме для састарэлых, памерла 103-гадовая Марджоры Роб, старэйшая з тых, хто застаўся ў жывых з пасажыраў «Тытаніка», якім удалося выратавацца ў час катастрофы 1912 года.

**ЗЛАЧЫНЦЫ АБ'ЯВІЛІ ВАЙНУ**

**236 тысяч злачынстваў здзейснена ў першай палове бягучага года на Украіне. Гэта столькі, колькі было за ўвесь 1987 год.**

**І «ЛУБЯНКА» НЕ СПАЛОХАЛА**

Старшы навуковы супрацоўнік Цэнтральнай выставачнай залы Масквы Н. ля станцыі метро «Лубянка» прадавала кілаграмовы злітак срэбра са Швейцарскага банка «ўсяго» за 200 тысяч рублёў. Аднак здзелка не адбылася, бо ёй перашкодзілі супрацоўнікі міліцыі.

## РАДЫЁФАКТ

**Міхаіл Гарбачоў, які знаходзіцца на адпачынку па прыватнаму запрашэнню на Пальма-дэ-Майорцы, выступаючы на прэс-канферэнцыі, ў прыватнасці, сказаў: «На працягу паўгода цалкам развалілася эканоміка краіны, і 80 працэнтаў насельніцтва жыве ніжэй узроўню беднасці. Рэформы знаходзяцца пад пагрозай. Неабходна новая палітыка і новыя людзі. Я пакуль не імкнуся заняць якую-небудзь дзяржаўную пасаду, аднак гэта не азначае, што я адышоў ад палітыкі. Я пачаў рэформы, я адказны за іх, і калі гэта не палітычная адказнасць, то ўжо прынамсі маральная. І я больш за іншых зацікаўлены ў іх поспеху».**

***

З першага верасня ў Гомелі пачне дзейнічаць першы ў рэспубліцы эканамічны ліцэй. Ён дасць школьнікам веды аб асновах рыначнай эканомікі, маркецінгу, менеджменту, падрыхтуе да знешнеэканамічнай дзейнасці. Нягледзячы на тое, што навучанне абыдзецца кожнаму ліцэісту у 12 тысяч рублёў, конкурс тут склаў 20 чалавек на месца. Дарэчы, навучанне будзе весціся як мясцовымі настаўнікамі, так і выкладчыкамі з Амерыкі, Германіі, Канады.

***

**Як вядома, мала каго з грамадзян можна сёння здзівіць тым, што купляць з рук свабодна канверсуемую валюту вельмі небяспечна, бо можна прыдбаць фальшыўку. Але ж свет не без даверлівых людзей. На мінулым тыдні ў ролі пакупнікоў валюты паспрабавала выступіць сталічная міліцыя. І небезвынікова. Двое мінчан спрабавалі збыць 600 германскіх марак. З нагоды таго, што валюта была фальшывай, супрацоўнікі міліцыі наведаліся з візітам на месца пражывання валютчыкаў, дзе знайшлі яшчэ 800 германскіх марак і 100 долараў ЗША. Па заключэнню экспертна - крыміналістычнага ўпраўлення МУС Рэспублікі Беларусь, усе купюры з'яўляюцца фальшывымі.**

***

У Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь пад нумарам 405 зарэгістравана новая грамадская арганізацыя — «Беларускі камітэт «Спецыялалімпікс», якая будзе працаваць пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь. Мэта яго — аб'яднанне інвалідаў і школьнікаў з недахопамі фізічнага і разумовага развіцця, іх бацькоў, спартсменаў, трэнераў, псіхолагаў.

# РАДЫЕФОБІЯ ЦІ РАЗУМНЫ СЭНС?

**АДКАЗ, НАПЭЎНА, ДАСЦЬ ТОЛЬКІ ПАТОЛАГААНАТАМ**

Памятаю, як адразу пасля чарнобыльскай аварыі народ ставіўся да прадуктаў з забруджаных і блізкіх да іх раёнаў. Людзі ледзь не абнюхвалі кожны пачак масла, пільнаму агляду падлягала кожная цукерачная абгортка — барані Божа, каб не гомельскія. Грэбавалі нават шакаладкамі гомельскай фабрыкі «Спартак» (дзе тыя шакаладкі па рубель дваццаць? Зараз бы не адмовіліся!). Яўна не карысталася попытам у той час і згушчанае малако Рагачоўскага малочна - кансервавага камбіната.

Праўдзівай інфармацыі было мала, даверу ўладам — ніякага. Таму, варта было толькі западозрыць нейкі харч у недастатковай «чысціні», як ад яго набыцця рашуча адмаўляліся. Тады аднекуль з уладных колаў раздражнёна прагучала слова «радыефобія», у сэнсе — неабгрунтаваная боязь радыяцыі, глупства і забабоны.

Потым, як вядома, усе харчы зніклі, і радыефобія скончылася. Мы з налёту расхаплівалі ўсё, што «выкінуць» на прылавак, не звяртаючы ўвагі на паходжанне дэфіцытных прадуктаў. Сама сабой вызначылася прамая залежнасць узроўню радыефобіі ад колькасці харчоў на паліцах: чым менш прадуктаў — тым меншая заклапочанасць радыяцыйнай небяспекай. Цяпер, з вяртаннем некаторых прадуктаў у магазіны, дзе-нідзе зноў «праклюнулася» і так званая радыефобія, і некаторыя прадукты зноў апынуліся пад падазрэннем. Напрыклад, тое ж рагачоўскае згушчанае малако. Мясцовыя жыхары, ведаючы, што малако на камбінат прывозяць рознае, у тым ліку і з дастаткова забруджаных населеных пунктаў, лічаць за лепшае канчатковы прадукт не ўжываць. Больш таго, некаторыя (асабліва недаверлівыя) не выключаюць магчымасці, што рагачоўскі камбінат нават хавае сваю «брудную» прадукцыю пад этыкеткамі Глыбоцкага малочна - кансервавага камбіната. Хоць і смешна гэта гучыць, але тут можна прыгадаць, як некалькі гадоў таму назад у магазінах Мінска з'явіўся маянэз з назвамі зусім незнаёмых заводаў на накрыўках. Былі там і адэскі, і курганскі, і нават нейкія сярэднеазіяцкія. Аказалася — гомельскі. Праўда, тлумачылі гэта вытворцы не злачынным імкненнем падмануць пакупніка, а дэфіцытам гэтых самых накрывак. Дзе, якія, маўляў, ухапілі тыя ў справу і пусцілі. Што ж, усё магчыма ў гэтым свеце...

Наконт чужых этыкетак дырэктар камбіната Барыс Мяфодзьевіч Рэва адразу запэўніў мяне коратка і катэгарычна: «Глупства!» Наадварот — зараз па заказу камбіната ў Кіеве распрацаваны ўзоры новых этыкетак, фірменных рагачоўскіх. Ніводзін іншы малочны камбінат у краінах СНД (і, вядома, за мяжой) такіх мець не будзе, і рагачоўскую прадукцыю можна будзе адрозніваць з першага погляду.

Малако з забруджаных раёнаў — Чачэрскага, Кармянскага, іншых — сапраўды паступае. Зараз яно яшчэ бруднейшае, чым заўсёды, таму што трава павысыхала, і каровы ліжуць пыл. Але... непрыдатнага для перапрацоўкі не бывае.

Як растлумачыла начальнік радыелагічнай лабараторыі камбіната Людміла Ямеліна, уся справа ў належным уваходным кантролі і сартаванні. Калі яны на ўзроўні — тады няма праблем.

Кожную партыю малака адразу сустракае дазіметрыст. Без накладной з адзнакай «дазіметрычны кантроль пройдзены» ніводная машына далей не пойдзе. Усе даныя заносяцца ў журнал.

У залежнасці ад замеранага ўзроўню ўтрымання радыенуклідаў (вымярэнне ідзе ў бекерэлях (Бк на літр ці кілаграм) малако накіроўваецца ў цэх цэльнамалочнай прадукцыі, у кансервавы ці маслацэх. Самыя жорсткія патрабаванні прад'яўляюцца да малака, якое прызначаецца на цэльнамалочную (малако, кефір, смятана, вяршкі і інш.) прадукцыю — не вышэй 37 Бк на літр. Трэба зазначыць, што гэта гомельскі абласны паказчык. Рэспубліканскія нормы дапускаюць да 185 Бк на літр, а агульны па СНД — да 370. Вышэй 370 Бк малака практычна не бывае. Вышэй 185 ёсць, яго звычайна накіроўваюць на сепарыраванне і вырабляюць заменнік цэльнага малака — для цялят і парсючкоў.

Гатовая прадукцыя таксама кантралюецца. Згушчонка і масла — у асноўным не вышэй 185 Бк на літр (пры рэспубліканскіх нормах 370), сухое малако — да 740 Бк/л. Шмат? Як сказаць... Міжнародным стандартам адпавядае, ідзе на экспарт, у Польшчу. Гэтак жа, як і сушаны адгон, у якім, здаецца, пасля перапрацоўкі і застаецца асноўная радыяцыя.

Недзе я чытаў, што ад калгасных кароў малако чысцейшае, чым з прыватнага сектара, бо калгасныя ўтрымліваюцца на культурных пашах, а «прыватніцы» пасвяцца дзе давядзецца — у асноўным па лясах, дзе фон вышэйшы. Пацікавіўся, як абстаяць справы тут. Аказалася, так званае «малако зборнае», як правіла, утрымлівае менш за 185 Бк/л. Усё ў норме.

Такім чынам, пагартаўшы дазіметрычныя журналы, на свае вочы пераканаўся, што пагрозы здароўю людзей рагачоўскія масла, згушчонка і іншае не нясуць. Дзякуй Богу. Але хай бы мне хто цяпер растлумачыў, якім чынам на забруджаных тэрыторыях атрымліваецца чыстая прадукцыя, якая адпавядае міжнародным стандартам? Ці не азначае гэта, што ў забруджаных мясцовасцях усё ў парадку? Тады чаму там хварэюць і паміраюць людзі? А тое, што яны хварэюць і паміраюць — ужо не сакрэт. (Дарэчы, журналы дазіметрыстаў камбіната таксама былі вялікім сакрэтам — яшчэ два гады таму назад мне б іх нават здаля не паказалі).

Але гэта пытанні не да работнікаў камбіната. У іх іншыя праблемы: у кефіра чамусьці павышаная кіслотнасць, тварог трэба «амалоджваць», смятана хутка псуецца. Спёка... З малаком увогуле складана — жывы прадукт са сваімі, часам непрадказальнымі, паводзінамі. А тут яшчэ рабочыя кідаюць усе справы і зачаравана глядзяць на пакуты багатай Марыяны...

Ёсць праблемы і больш сур'ёзныя. У гаспадарках ужо адкрываюць сянажныя ямы з сенам першага ўкосу, кармоў няма, нарыхтоўкі малака складаюць 77 працэнтаў ад жніўня мінулага года. Адсюль—спад вытворчасці і няпэўныя перспектывы на зіму. А радыяцыя —яна ж у межах нормы...

Выйшаўшы за вароты прадпрыемства, я завітаў у звычайны рагачоўскі гастраном. Згушчонкі там было — завалíся! Але не свайго — Рагачоўскага, а Глыбоцкага малочна - кансервавага камбіната...

**Аляксандр БЯРСУДСКІ. г. Рагачоў.**

# Пунш і справа высакародная

**На мінулым тыдні мяжу Беларусі зноў перасек каляровы фургон з гуманітарнай дапамогай. На гэты раз «Ківаніс-клуб» прывёз груз для Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.**

**Зараз старшыня клуба — інжынер Паўлоўскі, яго жонка і сын Нікалас, гэтак жа, як і іншыя ўдзельнікі падарожжа (два дактары навук і два вадзіцелі), адпачываюць у роднай Вене, прыняўшы гарачую ванну пасля нялёгкага падарожжа па дарогах Аўстрыі, Польшчы, Беларусі... і зноў Беларусі, Польшчы, Аўстрыі. Мабыць, менавіта гэтая мара аб гарачай ванне, на жаль, няздзейсненая ў Мінску, пагнала нашых гасцей дадому раней прызначанага тэрміну. Таму і інтэрв'ю з інжынерам Петэрам ПАЎЛОЎСКІ адбылося амаль выпадкова па дарозе ад епархіі да атэля. Мы крочылі па стомленаму за дзень Мінску сярод ломаных ліній старых дамоў, пад стук жаночых абцасікаў у сонным горадзе.**

**— Дык што ж сабой уяўляе клуб «Ківаніс»?**

— Першы ў Еўропе клуб быў заснаваны ў 1963 годзе ў Вене. Дзейнасць яго праходзіць паралельна з прафесійнымі заняткамі яго членаў, галоўнай жа мэтай з'яўляецца дабрачыннасць. Мы дапамагаем людзям, што апынуліся ў бядзе, дзецям, інвалідам. «Ківаніс» — не тайны клуб. Для таго, каб стаць яго членам, неабходна адзіная ўмова — чалавек павінен адчуваць адказнасць за той лад жыцця, які ён вядзе. Улічваецца і наяўнасць пэўнага поспеху ў яго справах. І, канешне, высакароднасць думак. Ёсць шмат людзей, якія думаюць толькі аб сабе, сваім прыбытку, сваіх перавагах. Гэта нам не падыходзіць. Два разы на месяц мы сустракаемся і запрашаем людзей з прамысловасці, палітыкі, медыцыны зрабіць даклады па цікавай для ўсіх тэме, якая можа выклікаць дыскусію.

Людзі ў нас бываюць самыя розныя, таму што «Ківаніс» па-за палітыкай. Сродкі, якія мы выдаткоўваем на акцыі дапамогі, мы зарабляем самі. Напрыклад, перад Калядамі прадаём на вуліцах Вены пунш. Гэтыя дні, напэўна, самыя халодныя за ўвесь год, і мы павінны цягаць ваду ў каністрах з бліжэйшага кафэ, разводзіць яе віном... Гэта не так лёгка, як уяўляецца: спераду холадна, ззаду горача ад нагрэтай вады... Але людзі ўжо ведаюць і любяць нас. Народ тоўпіцца вакол, саграваючы ўсмешкамі і жартамі.

На зароблены такім чынам грошы мы потым арганізоўваем дабрачынныя канцэрты і кірмашы.

Адна з галоўных нашых ідэй — абуджэнне асабістай ініцыятывы: не сядзець і не чакаць, калі што-небудзь адбудзецца. Афіцыяльныя ж арганізацыі надта непаваротлівыя і марудлівыя ў выпадках, калі патрэбна экстранная дапамога. Такой дапамогай мы і займаемся.

І вось так, дапамагаючы дзецям чарнобыльскай зоны, мы ў ААН пачулі пра ідэю Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, звязаліся з ягонымі прадстаўнікамі і прыехалі.

**— Ці склалася ў вас за гэты кароткі час нейкае ўражанне аб Беларусі? З якім пачуццём вы вяртаецеся назад?**

— Мне передалося ваша адчуванне крызісу. Я зразумеў, што азначае «цяжкі час». Але натхняе ў вас тое, што людзі спрабуюць жыць так, як самі жадаюць. На мой погляд, дабрабыт нельга прадпісаць. Трэба стварыць умовы для таго, каб людзі маглі самі дзейнічаць, самі вызначаць свой лёс, свае інтарэсы. І Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт можа стварыць атмасферу для такога жыцця.

**— Менавіта таму вам спадабалася ідэя Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта?**

— Так. Як я зразумеў, гаворка ідзе аб стварэнні асновы—духоўнай асновы для таго, каб потым дапамагчы людзям. Гэтак, дапамагаючы Еўрапейскаму гуманітарнаму ўніверсітэту, мы ажыццяўляем стратэгічную дапамогу.

**— Калі не сакрэт, колькі вы ўклалі ў гэтую дапамогу?**

— Я магу сказаць, што сам клуб затраціў 40 тысяч аўстрыйскіх шылінгаў (у асноўным гэта за перавозку). Астатняе мы «назбіралі» ў Аўстрыі, бо «Ківаніс» займае даволі значнае становішча ў грамадстве: адзін меў кантакты з фабрыкай, якая вырабляе паперу, другі — з магазінам, які прадае мэблю для ўстаноў... Аўстрыйская акадэмія навук аддала кнігі на суму 100 тысяч аўстрыйскіх шылінгаў.

У гэтым і галоўнае адрозненне «Ківаніса» ад падобных арганізацый. Для нас значны наш асабісты ўдзел у справе.

«Ротары», «Львы», «Ківаніс» — першапачатковая ідэя ў нас аднолькавая. Розніца толькі ў тым, што «Львы» — аб'яднанне багатых прадпрымальнікаў, якія займаюцца будаўніцтвам, — у падобным выпадку проста выцягваюць кашалькі і выкладаюць патрэбную суму... І канец справе.

**У гэтым месцы размовы мы ўжо стаялі каля атэля, удыхаючы начное паветра Мінска. Фрау Паўлоўскі, на дзіва прывабная ўсмешлівая жанчына, расказвала аб тым, як яе зачараваў беларускі краявід з яго спакойнымі сялянскімі пейзажамі, утульнымі вясковымі хатамі і гусямі.**

**Мы шчыра, ад душы ўсміхаемся адзін аднаму, кампенсуючы немагчымасць свабодна, без перакладчыка, размаўляць, і развітваемся.**

**А мне застаецца дадаць, што акрамя каштоўнага грузу «Ківаніс-клуб» прывёз пісьмы ад віцэ-бургамістра Вены, віцэ-канцлера Аўстрыі, міністра замежных спраў і прэзідэнта Акадэміі навук Аўстрыі, адрасаваныя Еўрапейскаму гуманітарнаму ўніверсітэту, з прызнаннем неабходнасці стварэння апошняга.**

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

Аляксандр ПАПОЎ:

# «ДАЎЖНІКОМ У БІЯТЛОНЕ СЯБЕ НЕ АДЧУВАЮ»

**Аляксандр Папоў для нашай рэспублікі мог бы лічыцца чужаземцам: нарадзіўся і вырас у Сібіры. Там стаў на лыжы, у родным Табольску першы раз ускінуў на плячо стрэльбу. Праўда, спачатку паляўнічую. Выступаючы за каманду Расіі, ён пазнаў радасць перамог і горыч паражэнняў на біятлонных трасах. Але вось ужо некалькі гадоў Саша выступае за зборную Беларусі. Пад сцягам нашай рэспублікі да яго не перасталі прыходзіць поспехі.**

**— Саша, перад зімовай Алімпіядай у Калгары ў паслужным спісу былі даволі сціплыя запісы: чэмпіён СССР, лейтэнант унутранай службы, Свярдлоўск. Праз чатыры гады ў анкеце Папова нічога ад таго не засталося. г. Мінск, чэмпіён і прызёр Алімпіяд, капітан. Ты чалавек часу?**

— Магчыма. Чатыры гады ў спорце вельмі многа. У мяне скалалiся яны нармальна. Медалёў у мяне дабавілася. Праўда, большасць сярэбраных...

**— Не шанцуе на золата?**

— Не, што ты. Я лічу, мне зусім пашчасціла, таму што так доўга знаходжуся ў добрай форме...

**— Узрост у цябе для спартсмена даволі салідны — дваццаць сем гадоў. Здароўя яшчэ хопіць на пару Алімпіяд?**

— «На некалькі» — не ведаю. А вось на зімовых Алімпійскіх гульнях у Лілехамеры я хачу яшчэ выступіць і добра там папрацаваць. А потым ужо, як кажуць, што Бог дасць.

**— Змагацца будзеш у саставе зборнай Беларусі?**

— Так. Я гатовы абараняць сцяг беларускай каманды.

**— Ты лічыш, што наша каманда складзе канкурэнцыю нарвежцам, немцам і яшчэ зусім нядаўнім сябрам па зборнай — расійскай камандзе?**

— Безумоўна. Лічу, што біятлон у нас цяпер будзе моцным. Калі нармальна пойдзе падрыхтоўка і ўсё складзецца так, як плануецца, то беларуская каманда дастойна выступіць і на чэмпіянаце свету, і на Гульнях у Нарвегіі.

> **З дасье**
>
> **Аляксандр Папоў. Біятлон. Заслужаны майстар спорту. Нарадзіўся 22 лютага 1965 года. Чэмпіён Алімпіяды-88 у эстафеце. Сярэбраны прызёр чэмпіянату свету 1991 года ў гонцы на 20 км. Чэмпіён свету-92 у каманднай гонцы. Пераможца двух этапаў Кубка свету 1991—1992 гг. Сярэбраны прызёр Алімпіяды-92 у эстафеце. Жанаты. Любіць паляванне.**

**— А як усё ж здарылася, што ты атрымаў «мінскую прапіску»?**

— Мой трэнер — Уладзімір Капшукоў — пераехаў у Беларусь, куды яго запрасілі. Мне таксама захацелася змяніць месца жыхарства, і я прыехаў у Мінск. Але прыхварэў, прапусціў сезон. Прыйшлося доўга папраўляць сваё здароўе. Тут вельмі добра даглядалі. Дарэчы, горад мне ўжо даўно спадабаўся.

**— У спартыўнай прэсе пра цябе можна сустрэць прыкладна наступнае: калі ён паставіць якую-небудзь мэту ў жыцці і ведае, што яна правільная, то абавязкова яе даб'ецца.**

— Такі я нарадзіўся. Ну, а калі сур'ёзна, то без мэты нельга жыць. Яна стымулюе і неяк абавязвае...

**— Саша, а табе прапаноўвалі работу за мяжой?**

— Не.

**—А калі б усё ж такі былі варыянты?..**

— Па кантракту папрацаваў бы, а з'язджаць назусім туды не хочацца. Як бы мне тут цяжка ні было. Хоць дрэнна, але ўсё роўна я — на сваёй зямлі. Там для мяне ўсё чужое. Камфорт іх надакучвае. Магчыма, таму, што мы ў іншым свеце раслі. Адзінае імпануе мне: там можна зарабіць капітал. Здароўе — не вечнае, і не ведаеш, на колькі цябе яшчэ хопіць. У нас, шчыра кажучы, многа не заробіш. Ёсць, канешне, спартсмены, якія нядрэнна выступалі і маюць немалы грашовы запас...

**— Цікава, ты да якой «касты» сябе адносіш: бедных ці багатых?**

— Раней я лічыў сябе даволі заможным чалавекам, а цяпер часы змяніліся — багатым не лічуся.

Гадоў пяць назад у мяне была круглая сума на ашчадкніжцы, машына, кватэра. Я быў нармальна забяспечаны.

**— А зараз?..**

— Аўтамабіля пакуль што няма — грошай усіх не хопіць купіць па цяперашніх цэнах. Але ёсць веласіпед гоначны. На яго і бензіну не трэба. Дачы няма, але маю двухпакаёвую кватэру ў Мінску.

**— Ведаю, што ты ўжо не халасцяк.**

— Так, я ўжо два гады як жанаты. Мая жонка — Наталля. Таксама—спартсменка. Раней займалася фігурным катаннем.

**— Саша, немцу Кірхнеру, твайму «брату» па спорту, за выйгрыш Алімпіяды ці нават за другое месца хопіць не толькі на машыну?**



— Безумоўна. Ды і параўноўваць наша становішча з іхнім пакуль што нельга. Калі я атрымаю столькі, колькі ён, то адразу ж буду мільянерам. Але ж мяне проста людзі не зразумеюць. Наогул, псіхалогія ў спартсмена змардаваная. Дзесьці падтрымкі збоку няма — і ўсё пайшло-паехала.

**— А за сябе ты не баішся, што можа так атрымацца?**

— Не, тфу-тфу-тфу. Калі мяне не будуць карміць лыжы, то знайду нейкі іншы спосаб зарабляць сабе на жыццё. Я вучыўся на пажарнага тэхніка.

**— У цябе ёсць запаветная мара?**

— Канешне. Сына хачу. І дом свой пабудаваць.

**— Твой сябар Жэня Рэдзькін (чэмпіён Алімпіяды-92—У. З.) на трасе гарыць жаданнем паспрабаваць сібірскія пельмені. Аб чым думаеш ты?**

— Аб свежай сібірскай рыбе.

**— І часта твае жаданні становяцца рэальнасцю?**

— Здараецца, калі бываю дома. Любыя мары збываюцца, толькі трэба вельмі захацець.

Гутарыў **Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Тры вясёлыя літары вельмі папулярныя ў народзе

**Карэспандэнт «Звязды» пры дапамозе камісара (не здзіўляйцеся, ёсць такая пасада.— С. С.) беларускага турніра «Клуба вясёлых і знаходлівых» Андрэя Мукавозчыка даследуе «кухню» КВЗ Беларусі.**

**ГІСТОРЫЯ**

Сёлета «вясёлыя і знаходлівыя» Рэспублікі Беларусь, а таксама ўсе неабыякавыя да сатыры і гумару адзначылі пятую гадавіну рэспубліканскага турніру КВЗ. Сваё існаванне ён пачаў у 1987 годзе, калі спаборнічалі каманды толькі сталіцы Беларусі, у 1989 годзе турнір з-за ўдзелу ў ім іншагародніх каманд атрымаў статус Мінскага адкрытага, а з наступнага сезону стаў уласна рэспубліканскім.

**КАНТЫНГЕНТ**

Пераважную большасць «вясёлых і знаходлівых» складаюць рабочыя або студэнты, для якіх удзел у КВЗ — чыста аматарская справа. Аднак яна займае шмат часу (каманда павінна няспынна працаваць—з верасня па май) і нават становіцца часткай прыватнага жыцця. Нездарма, па словах Андрэя Мукавозчыка, нярэдкія выпадкі стварэння сем'яў у нетрах каманды.

**БАЛЕЛЬШЧЫКІ І ГЛЕДАЧЫ**

Вы ніколі не адчувалі, што «сярэдняму» гледачу не вельмі цікава глядзець спаборніцтвы беларускага КВЗ, што ён не заўсёды рэагуе на «перлы», якімі частуюць яго нашы каманды? А вось Андрэй Мукавозчык, аб'ездзіўшы шмат турніраў і добра ведаючы каманды іншых краін СНД, сцвярджае, што «сярэдні» глядач атрымлівае задавальненне менавіта ад КВЗ Беларусі. На думку Мукавозчыка, такога гледача ў Маскве на перадачах Аляксандра Маслякова няма наогул. Партэр, які мы бачым на тэлеэкране, — гэта балельшчыкі той і другой каманды, якія прыязджаюць за 2—3 дні (каманды—за тыдзень) і з якімі таксама ідуць асобныя рэпетыцыі. Адсюль усе транспаранты і іншыя атрыбуты, што ствараюць фальшывую зладжанасць падзеі. І толькі ў амфітэатры ў Маслякова сядзяць не-балельшчыкі, і ім вельмі сумна.

**СУДДЗІ**

Спаборніцтва (у літаральным сэнсе гэтага слова) у Маскве няма наогул. Ужо па саставу журы там можна зразумець, хто атрымае перамогу. Беларускія КВЗшчыкі выйгралі ў 1971 годзе ўсесаюзны турнір, у іх ёсць вопыт, таму за кампетэнтнасць суддзяў на рэспубліканскім конкурсе можна быць спакойнымі. І гэтыя дасведчаныя людзі, якія ўваходзяць у састаў журы ў Мінску, сцвярджаюць, што па сцэнарных ходах і па конкурсах мы нічым не горшыя за КВЗ агульнасаюзнага ўзроўню. На Беларусі журы падбіраецца як каманда аднадумцаў, якая яскрава ўяўляе сабе, што і чаму яна судзіць.

**ТЭМЫ**

На думку Андрэя Мукавозчыка, сутнасць КВЗ у тым, што дзве каманды жартуюць на зададзеную тэму, а не «наогул», як гэта робіцца ў Маслякова. Мала таго, што там можна жартаваць у межах аднаго конкурсу аб чым жадаеш, дык яшчэ з турніру ў турнір каманды паказваюць адну і тую ж візітную картку.

У беларускім КВЗ структура некалькі іншая, менш мабільная, затое дазваляе і судзіць больш аб'ектыўна, і ў гледачоў выклікаць цікавасць, ды і самім удзельнікам «раскрывацца» да канца. Замест так званай «візітнай карткі» ў нас практыкуецца выхад каманды і вузкае хатняе заданне ў межах вельмі акрэсленай тэмы. Трэба сказаць, што раз-пораз аргкамітэт беларускага турніру КВЗ свядома ставіць каманды - ўдзельніцы ў вузкія і нязручныя рамкі канкрэтнай тэмы, каб прымусіць іх «папрацаваць мазгамі». Напрыклад, у час апошняга фіналу была прапанавана тэма «Нядзельная кіназала» з першым конкурсам «Нямы фільм «Прыбыццё поезда», дзе дазвалялася выкарыстоўваць толькі тытры і іх агучванне. Такія межы прыводзяць да таго, што каманда, якая сапраўды «трапіла» ў тэму, не можа зрабіць гэта не смешна. Гэтая «вузкая спецыялізацыя» — пэўная перавага КВЗ Беларусі перад «маслякоўскім».

**ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ**

Пасля стольких дыфірамбаў у адрас беларускага КВЗ на фоне якога тэлегульня Аляксандра Маслякова выглядала не вельмі прывабнай, я пацікавіўся, ці сапраўды ўсё так добра ў нашых «вясёлых і знаходлівых». Камісар турніру ўсё ж прызнаў: «Падзенне ўзроўню беларускага КВЗ відавочна намецілася, і я нават баюся думаць аб тым, што наш КВЗ мінуў сваю вяршыню. Ніякі рух угору не можа працягвацца вельмі доўга. Вельмі цяжка было ў 1987—1989 гадах, калі з-за галоснасці ўся эзопава мова зрабілася нікому не патрэбнай, але нават тады беларускі КВЗ здолеў вытрымаць. А цяпер вось крызіс».

Андрэй Мукавозчык упэўнены, што каманды моцна знізілі патрабавальнасць да сябе, і гэта не магло не адбіцца на гульні. Што гэта за справа, калі збіраюцца «мужыкі», вырашаюць гуляць у КВЗ і за тыдзень два збіраюцца падрыхтавацца і добра выступіць? Менавіта такой у апошнім фінале была каманда «Круглая плошча». Яшчэ адзін адмоўны момант у выступленнях каманд — дрэнная рэжысура. Адбіваецца на нашым турніры і тое, што на Беларусі параўнальна нямнога каманд, якія гуляюць у КВЗ і, у адрозненне ад Аляксандра Маслякова з вялікім выбарам класных каманд па ўсёй СНД, у нас попыт вельмі слаба нараджае прапанову. Не хапае ў нашых з вамі КВЗшчыкаў прафесіяналізму ў падзеле функцый, і гэта пры тым, што каманда павінна добра спяваць і танцаваць, многа і якасна жартаваць, быць пластычнай і г. д.

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БЕЛАРУСКАГА КВЗ**

Я папрасіў камісара ўявіць сабе, што ствараецца своеасаблівая энцыклапедыя беларускага КВЗ, у якой аб вядомых камандах будзе па некалькі радкоў, і прапанаваць свае тэксты для яе. Вось што з гэтага атрымалася.

1). Мінскі інстытут замежных моў, каманда якога стала пераможцай сезона 1987—88 гадоў. Яна першай зразумела, што КВЗ — такая ж гульня, як і іншыя, адчула спартыўны дух КВЗ. Яшчэ адна адметная рыса — дапамога літаральна ўсяго інстытута.

2). Пераможца сезона 1988-89 гадоў — каманда радыётэхнічнага інстытута і інстытута культуры. Гэта першая аб'яднаная каманда. Да цяперашняга часу памятаюць, як цудоўна гэта каманда ўмела гуляць у «хажэй» (г. зн. размінка), ствараючы пры гэтым вельмі нечаканыя жарты. За перамогу «Радыёкультура» паехала ў Польшчу (і гэта ў тыя гады, калі туды ездзілі толькі адпачываць, а не гандляваць).

3). Аб'яднаная каманда БДУ і МДМІ — лепшая ў сезоне 1989-90 гадоў. У час свайго выйгрышу — гэта суперкаманда, на ўзроўні мацнейшых каманд КВЗ СССР. Першая паказала прафесійны падыход да справы, акрэслівала тактыку на кожную гульню, добра ведала густы журы і характар сапернікаў, цудоўна выкарыстоўвала «тоўстага» і «тонкага» на патрэбным месцы. Прыз — паездка ў Балгарыю. Потым каманда раз'ядналася.

4). У сезоне 1990-91 гадоў перамагла аб'яднаная каманда віцебскіх педагагічнага і тэхналагічнага інстытутаў, якая за перамогу ездзіла ў Парыж. Упершыню выкарыстала песенную групу, прычым у адрозненне ад «маслякоўскага» КВЗ,—ужывую. Яе станоўчыя якасці — добрае размеркаванне роляў, трапны падбор акцёраў.

5). Пераможца ў сезоне 1991-92 гадоў — каманда БДУ. У камандзе няма адметных удзельнікаў, але яна валодае цудоўным сродкам — у патрэбны час, у патрэбным месцы ўстаўляць рэкламу. Гэта стала фірменным нумарам каманды. Акрамя таго хлопцы і дзяўчаты з універсітэта вельмі дружныя.

**КАРУПЦЫЯ**

Чуткі аб карупцыі ва Усесаюзным КВЗ Аляксандра Маслякова ходзяць ужо даўно. Андрэй Мукавозчык не стаў абвяргаць іх, але і канкрэтных абвінавачванняў у адрас маскоўскіх арганізатараў па пэўных прычынах не прагучала. У прыватнасці, камісар беларускага КВЗ расказаў гісторыю аб тым, як каманда БДУ — МДМІ прыязджала ў Маскву для паказу сваёй «візітнай карткі» члену журы Юлію Гусману і самому Маслякову. У камандзе адчуваўся патэнцыял, і абодва гэта зразумелі. Аднак Маслякоў адышоў у бок, а Гусман, адзначыўшы ва ўдзельніках «шчырыя славянскія твары», недвухсэнсоўна заявіў, што камандзе не хапае «вопытнага рэжысёра - кансультанта», пры якім яна магла б «дайсці да фіналу», і што гэта абыдзецца ёй «тысяч у трыццаць». Маслякоў жа здалёк толькі маўкліва назіраў, але адчувалася, што ён «у курсе». Тады гэта былі велізарныя грошы, і каманда БДУ — МДМІ засталася без «рэжысёра - кансультанта». Па словах Андрэя Мукавозчыка, ёсць і іншыя выпадкі, якія сведчаць аб падазронай рэпутацыі арганізатараў КВЗ у Маскве.

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Вас ніколі не здзіўляла, што ў суверэннай Беларусі конкурс КВЗ праходзіць на рускай мове? Аднак аргкамітэт па правядзенню турніру лічыць гэта нармальнай з'явай. Ён не збіраецца навязваць камандам выступленне на беларускай мове. У прыватнасці, сам Мукавозчык мяркуе, што чалавек можа жартаваць па-беларуску толькі тады, калі думае на гэтай мове, інакш гэта будзе падобна на тое, як іншаземец жартуе па-руску. Аднак з іншага боку, калі ў каманд ёсць жаданне ствараць сваю праграму на «матчынай» мове, — аргкамітэт будзе толькі вітаць гэта, калі, канешне, усё будзе зроблена на высокім узроўні.

**СПОНСАРЫ**

Якая ж гаворка аб любой грамадскай з'яве абыходзіцца зараз без успаміну аб спонсарах? Беларускаму КВЗ па вялікаму рахунку амаль ніхто не дапамагае. З кожнай каманды аргкамітэт вымушаны збіраць па паўтары тысячы рублёў на прызавы фонд і іншыя выдаткі.

Беларускі КВЗ існуе ўжо пяць гадоў як нідзе не зарэгістраваная грамадская арганізацыя, і да гэтага часу розныя маладзёжныя і культурныя фонды і камісіі, іншыя дзяржаўныя ўстановы не жадаюць узяць пад апеку «вясёлых і знаходлівых», не жадаюць зразумець, што гэтая плынь больш важная і масавая сярод моладзі, чым розныя металісты і рокеры, на мерапрыемствы якіх заўсёды знаходзяцца спонсары. Пра што думае Саюз моладзі Беларусі, які больш заклапочаны арганізацыяй камерцыйных паездак у Польшчу, чым стварэннем добрых умоў для самай гумарыстычнай часткі беларускай моладзі?

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## РАДЫЁ

**27 жніўня**

11.30 — «Справа». Хроніка дзелавога жыцця. 11.40 — «Чалавек. Грамадства. Закон». 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Беларуская эстрада ўчора і сёння». Канцэртная праграма. 15.15 — «Сустрэчы». Выступленне Максіма Лужаніна. 15.40 — «Па старонках літаратурна-мастацкіх часопісаў «Полымя», «Беларусь», «Маладосць», «Нёман». 16.05 — «Сябрына». Праграма для падлеткаў. 17.00 — «Эканамічны дзённік». 17.40 — «Аматарам класічнай музыкі». 18.00 — перадачы абласнога радые. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — «Дзень нашага жыцця». 20.05 — вячэрняя казка. 20.25 — «Гасцёўня». 21.00 — «Ад шчырага сэрца». Музычная праграма па пісьмах радыёслухачоў. 22.00 — «Клопат». Медыцынскі веснік. 22.00 — «Беларусь і свет». Міжнародная праграма. 23.10 — канцэрт. 0.00 — «Начны канал».

## НАДВОР'Е

**26 жніўня**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам дождж. Тэмпература паветра ў Віцебску, Гродна 18—20, Мінску — 19—21, Брэсце, Магілёве — 20—22, Гомелі — 22—24 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца: 27 жніўня ў асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, 28-га — без ападкаў. Тэмпература паветра 6—11, 27 жніўня месцамі да 14 градусаў цяпла, удзень — 19—24, 28-га — па паўднёваму захаду да 27 градусаў вышэй нуля.

**Л. САНКЕВІЧ,** інжынер-сіноптык.






Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).

## Час знімаць яблыкі...

Сухое надвор'е паскорыла выспяванне пладоў. Яблыкі летніх сартоў — белы наліў, медунічка, мелба, суйслепскае набылі характэрную афарбоўку і смак. Многія самі ляцяць долу. І вельмі дасціпныя сёлета вусені тут ні пры чым. Проста надышла пара першага «жніва» ў садзе.

Летнія сарты вельмі кволыя. На іх застаецца адмеціна нават ад пальцаў. Таму практыкі рэкамендуюць надзяваць... лёгкія пальчаткі. Умяцін будзе значна менш.

Важная акалічнасць — тара. Падыдуць любыя вёдры (лепш поліэтыленавыя), кошыкі, нейкія торбачкі. Усе ёмістасці знутры ўсцелены непатрэбным матэрыялам.

Знімаць яблыкі па адным. І асцярожна перакладаць у тару. З тары перамяшчаць у неглыбокія лёгкія драўляныя скрынкі (тыпу вінаградных). Размяшчаць у адзін ці два рады. У такіх ёмістасцях лёгка знайсці загніўшыя плады і выдаліць іх.

Не грэбуйце тэмпературай і святлом. Чым вышэйшая адзнака тэрмометра, тым горш захоўваецца ўраджай. Пажадана, каб яна была бліжэй да нуля (але не нуль!). А вышэйшы рубеж — +1—+3 градусы. Дастаткова вільготна. Калі вельмі суха, уносяць у схованку ваду ў тазіках ці вёдрах.

На сонцы знятыя плады псуюцца даволі хутка. Але калі іх змясціць у нейкіх прыцемках (хляве, склепе, падвале), усё ідзе больш запаволена.

Пры знятці, скажам, яблыка ці грушы, не палохацца, калі абламалася пладаножка. Яна не робіць істотнага ўплыву на далейшае захоўванне. Толькі вырываць «з мясам» нельга. Гніль пранікне якраз у рану.

Шмат дзе плады загортваюць у паперу. Там ствараецца часовы мікраклімат. Але не надоўга. Лепш змясціць яблыкі ў цэлафанавыя пакеты (да 4 кг) і пакласці на «пладовую» (ніжнюю) палічку халадзільніка. Можна змясціць і ў падвале. У кожным выпадку тэрмін захоўвання падоўжваецца.

Сам працэс зняцця ўраджаю пажадана праводзіць у першай палове дня, калі плады сухія і не перагрэтыя. Можна знімаць і ўдзень. Але абавязкова «студзіць» іх.

Ні яблыкі, ні тым больш грушу і слівы, не праціраюць. Васковы налёт на паверхні, бы кансервант, захоўвае прадукцыю ад непажаданых уздзеянняў тэмпературы, вільгаці, святла.

У засушлівае лета садавіна аказалася даволі ўстойлівай да хвароб. Менш нават плям паршы. Але грыбковыя ўздзеянні па-ранейшаму моцныя. Мы бачым на дрэве шмат сапсаваных пладоў. Таму вельмі важна захоўваць у схованках належны рэжым, асабліва тэмпературу і вільгаць.

Плады яблыкаў і груш летніх сартоў захоўваюцца да месяца. Некалькі меншы перыяд ляжання ў сліў.

Яшчэ адна форма захоўвання прадукцыі — сушка і кансерваванне.

Прыкметы паспявання: набыццё плодам уласцівай колернай гамы, смаку і важкасці. На разрэзе насенне не бялюткае, а больш цёмнае і нават чорнае.

Што ж адбудзецца, калі мы своечасова не знімем ураджай? Плод, бы перарослае цяля, будзе цягнуць з маці пажыўныя рэчывы. Дрэва, як усялякая клапатлівая маці, аддасць яму патрэбнае і застанецца вельмі аслабленым. У сухое надвор'е гэта вельмі небяспечна, бо расліны могуць проста загінуць.

Так што знімайце выспеўшы ўраджай своечасова і абавязкова палівайце дрэвы па глыбокіх ямках (да 30—40 см). Такіх ямак на дарослую асобіну не менш чатырох.

## Кампост на балоце

**У нас дача на балоце. Ці можна закопваць смецце?**

**Канстанцін ФЕДАРАЎ.**

**г. Мазыр.**

Балотная глеба вызначаецца павышанай вільготнасцю. Вада не прапускае да раслінных рэшткаў паветра. І ўсё там ляжыць, бы ў халадзільніку. Пры перакопцы мы выварочваем на паверхню ўсё «цэленькае».

Таму на тарфяніках з блізкім узроўнем грунтавых вод рознае смецце (траву, хатнія адкіды, лісце, бульбоўнік, бурачнік, паперу, попел і інш.) не трэба ўносіць у глебу. Усё гэта лепш скласці на нейкім пагорачку, падаслаўшы знізу галінкі дрэў рознага дыяметра. За лета гэты «міні-кампост» некалькі разоў паліць, двойчы пералапаціць. Калі ён ператворыцца ў аднародную цёмную масу, якая не пэцкаецца, — можна перанесці на агарод.

Але гэта не будзе паўнацэнным кампостам. Таму яго мэтазгодна «падмацаваць» мінеральнымі ўгнаеннямі.

## Дозы ўгнаенняў пад саджанцы

**Збіраемся закладваць сад. Якія прыкладныя нормы ўгнаенняў?**

**г. Мінск.**

**З. ЗВІРЫДОВІЧ.**

Калі вы збіраецеся закладваць свой сад, паклапаціцеся аб гэтым своечасова. Многае можна зрабіць у канцы жніўня — пачатку верасня. Галоўная ўвага — ямам і ўгнаенням. Пра ямы мы расказвалі ў мінулым выпуску. Сёння больш падрабязна пра ўгнаенні.

Падыдуць перапрэлы гной, добры кампост, нават торф, які правятраны і «нашпігаваны» арганічнымі і мінеральнымі саставамі — як у вядомай «Дзвіне».

Розных састаўляючых патрэбна не так ужо і шмат. Для яблыні і грушы хопіць 3—8 вядзёр арганікі (усё залежыць ад глебы і памераў ямы), 2—4 шклянкі калію (лепш — сернакіслага), да паўвядра попелу (найлепш лісцевых парод дрэў), да чатырох шклянак суперфасфату. Усё гэта размяркоўваць паслойна, памятаючы, што высокая канцэнтрацыя ўгнаенняў небяспечная для кволых карэньчыкаў. Лепш размеркаваць яе па баках і ўглыб. Карані, падужэўшы, лёгка засвояць карыснае для свайго развіцця.

Сліва і вішня спажывае ўсяго менш. Абмяжуйцеся трыма вёдрамі арганікі (напрыклад кампосту), дзвюма шклянкамі суперфасфату, пяццю шклянкамі попелу і шклянкай калію. Зноў закладваем усё паслойна і больш уніз і на краі.

Парэчка, агрэст, маліна, іншыя пладова-ягадныя кусты задавольваюцца паловай ці вядром кампосту, паловай ці поўнай шклянкай суперфасфату, дзвюма шклянкамі попелу, паловай шклянкі калію.

## Мяняем дрэва

**У садзе загінула маладая яблыня. Ці можна на тое ж месца пасадзіць новую?**

**Сям'я БАБОВІЧАЎ.**

**г. Магілёў.**

Трэба ведаць, чаму мяняем саджанец. Калі не задавальняе сорт, дык можна ўладкаваць і на ранейшае месца. Але калі дрэўца загінула, тут неабходна праяўляць асцярожнасць, каб не падвергнуць новы саджанец цяжкаму выпрабаванню.

Лепш за ўсё адступіць на 1,5 метра ад ранейшага месца ў любы бок. Калі гэта немагчыма, прадэзінфіцыраваць ці нават замяніць зямлю.

Часам хапае для абясшкоджвання два вядры кіпеню, які заліваем у дзве ямкі побач з ранейшай пасадкай. Дадаць раствор марганцоўкі і меднага купарвасу (па 5 грамаў на вядро вады). Высаджваць новае дрэўца не адразу, а праз тыдзень-два пасля такой апрацоўкі. Абавязкова на месца пасадкі ўнесці невялікую колькасць кампосту.

Не саджайце дрэвы там, дзе раслі іх састарэлыя «родзічы». Маладыя будуць адчуваць сябе прыгнечана, адставаць у росце ад сваіх паплечнікаў. Гэта здарыцца нават і тады, калі глебу ўгноіце вельмі добра (да паўтары нормы). А ў час пладаношэння навенькі будзе адчуваць «руку» папярэдніка.

## Зноў пладажэрка...

**Ураджай гіне ўвачавідкі. Яблыні сыплюцца штодня. І ўсе чарвівыя...**

**(СА ЗВАНКА У РЭДАКЦЫЮ).**

«Працуе» пладажэрка. Выйсце адно: збіраць ападкі і закопваць як найглыбей. Накласці на ствалы лоўчыя паясы, аглядаць іх раз у тры-пяць дзён. Вусеняў пладажэркі спальваць. Можна ствалы і буйныя галіны апрацаваць карбафосам (30 грамаў на 10 літраў вады).

Чаму не лісце? Цяпер лятае шмат розных птушак. Пладажэрку можам і не дастаць, а птушак знішчым. Лепш ставіць прынады з кампотаў, якія бродзяць. Наліваць іх у слоікі (0,5, 0,7, 1 літр) да палавіны і прымацоўваць з нахілам у кроне. Туды трапіць прыцемкам не вусень, а матылёк. Удзень яго з'ядуць птушкі.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

**26 жніўня**

**Беларускае тэлебачанне**

**12.35.** «Горы дымяць». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Нявеста падземнага прынца». Маст. фільм з субцітрамі.
**17.50.** «Марусіна карусель». Мультфільм.
**18.00.** Дак. фільм «Маналог з адступленнямі».
**18.30.** Еўрапейскія далягляды. Аб сертыфікацыі прадукцыі ВА «Гарызонт».
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Роднае слова.
**19.50.** «Чароўны кірмаш». Фальклорная праграма.
**20.10.** «Да берага даплыць...» Частка 2-я «Край буслоў».
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** «Разводы, разводы...» Маст. фільм (Балгарыя).
**22.40.** НІКа.
**22.55.** Футбол. «Беларусь» (Мінск) — «Тарпеда» (Магілёў).

**Канал «Астанкіна»**

**12.45.** «Кошчын дом». Мультфільм.
**13.10.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Сёння і тады.
**14.55.** «На цёмным баку Месяца». Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.55.** «Востраў скарбаў». Маст. фільм. 2-я серыя.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Мелодыі і рытмы Узбекістана.
**17.55.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.40.** «Каму ён патрэбны, капіталізм?» Вядучы У. Познер.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «Семнаццаць левых ботаў». 4-я серыя «Дачка».
**21.50.** Чорная скрыня.
**22.30.** Старонкі рускай музыкі.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Лімпапо.
**23.55.** «У стылі кантры». Свята амерыканскіх песень і танцаў.
**0.35.** «На цёмным баку Месяца». 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Казырная дама.
**15.30.** Мульці-пульці.
**16.05.** «Імперыя вінаў» (горад Пяцігорск).
**16.40.** Там-там навіны.
**16.55.** Хрысціянская праграма. «Надзея сёння».
**17.40.** М-трэст.
**17.55.** Тварам да Расіі.
**18.10.** Палітаддзел. «Гісторыя адной паездкі».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Санта-Барбара».
**20.20.** «Вяртанне з зорак». Мультфільм для дарослых.
**20.25.** Памяці Юрыса Подніекса. «На скрыжаванні», «Коціць Сізіф камень».
**21.55.** Рэклама.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Гала-канцэрт зорак опернага мастацтва.

**27 жніўня**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Разводы, разводы...» Маст. фільм (Балгарыя).
**10.00.** «Смех пад сонцам». Дак. фільм.
**10.35.** «Вечная раніца аперэты». Фільм-канцэрт.
**11.35.** «Джэк Васьмёркін — «амерыканец». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**13.45.** «Быць і лічыцца». Дак. фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Самая салодкая дыня». Мультфільм.
**16.45.** Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі.
**17.00.** Футбол. «Тарпеда» (Мінск) — КІМ (Віцебск).
**18.45.** Дак. фільм «Дзівосныя азёры».
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** Як пачаць уласную справу. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
**19.45.** «Весялуха». Інсцэніроўка паводле апавядання Хрысціны Лялько «Лёгкі хлеб».
**20.05.** «А дзе мне ўзяць такую песню...» Дак. фільм.
**20.25.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Латарэя ўдачы.
**21.30.** Міжнародны маладзёжны лагер «БЕ-ЛА-РУСЬ».
**22.30.** НІКа.
**22.45.** Футбол. «Дынама» (Брэст) —«Трактар» (Бабруйск). 2-гі тайм.
**23.35.** Футбол-92.

**Канал «Астанкіна»**

**7.50.** «Капрызны Мурад». Мультфільм.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.50.** «Семнаццаць левых ботаў». 4-я серыя «Дачка».
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Тры залатыя валаскі дзеда Усёведа». Маст. фільм (Чэха-Славакія).
**12.30.** Лімпапо.
**13.10.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Гэта было... было...
**14.45.** «На цёмным баку Месяца». Маст. фільм. 3-я серыя.
**15.50.** Мультфільм.
**16.00.** «Востраў скарбаў». Маст. фільм. 3-я серыя.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.40.** Кінапанарама.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** «Семнаццаць левых ботаў». 5-я серыя «Бацька».
**21.40.** Урмас От гутарыць з Іосіфам Кабзонам.
**22.30.** Танцы, танцы...
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Гукавая дарожка. ТБ-версія.
**23.55.** «На цёмным баку Месяца». Маст. фільм. 3-я серыя.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Час дзелавых людзей.
**7.55.** Мульці-пульці «Казка пра старое рэха», «Крылы, ногі і хвасты».
**8.05.** Памяці Юрыса Подніекса. «На скрыжаванні», «Коціць Сізіф камень».
**9.35.** Вольны час. «Увага: здымаю!»
**9.50.** «Я не магу жыць без Расіі». Дабрачынны канцэрт.
**11.20.** Дакументальная панарама. «Хто косіць ноччу?»
**11.50.** «Санта-Барбара».
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Бізнес: новыя імёны.
**15.15.** Пілігрым.
**16.00.** «АЭС: погляд знутры».
**16.30.** Азы кар'еры.
**16.45.** Там-там навіны.
**17.00.** Далёкі Усход.
**17.45.** Паралелі. «Святло згарэлай эпохі».
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Успамінаючы Ігара Ільінскага.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Крымінальныя весткі.
**19.45.** «Санта-Барбара».
**20.35.** Інтэрв'ю прэзідэнта Рэспублікі Чувашыі Э. А. Кубарава.
**21.00.** Пятае кола. «Падарожжы розуму».
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Прыватнае жыццё. «Сірано дэ Бержэрак».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ. Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 169.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12